# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 11 (2257) 12 сакавіка 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).



УЛАДЫКА МІКАЛАЙ З КАНАДЫ — ГОСЦЬ БЕЛАРУСІ

## ВІЗІТ У КАНЦЫ ЗІМЫ

Хіба што з доўгай, суровай, зацяжной зімой можна параўнаць дачыненні старой Беларусі са сваёй эміграцыяй. Але, як гэта ў прыродзе заведзена, за зімой абавязкова надыходзіць вясна. Напэўна, надыход вясны адчуваючы, калі газарыць вобразна, і прыехалі на Бацькаўшчыну, якую пакінулі амаль што паўстагоддзя назад, у апошніх днях лютага нашы суайчыннікі з Канады і ЗША, прадстаўнікі так званай «паваеннай эміграцыі», альбо, калі быць больш дакладнымі, — палітычнай: найпачаснейшы Мікалай, мітрапаліт Беларускай Праваслаўнай аўтакефальнай царквы (сяліба ў Таронта), узначальвае створаны пры царкве Фонд дапамогі ахвярам Чарнобыля, М. Ганько, дырэктар Канадыйскага дабрачыннага фонду ахвярам Чарнобыля ў Беларусі, старшыня Згуртавання беларусаў у Канадзе, і беларускі грамадскі і царкоўны дзеяч з горада Нью-Брансвіка, штат Нью-Джэрсі ў ЗША, спадар Васіль Русак. Прыехаўшыя па запрашэнні Таварыства беларускай мовы і БНФ суайчыннікі везлі на сваю радзіму так патрэбныя цяпер у Беларусі лекі для хворых дзяцей, што пацярпелі ад Чарнобыля... Ехалі, каб убачыць сваю Бацькаўшчыну і адчуць яе душой, лепш зразумець, што адбываецца тут цяпер, знайсці ўзаемаразуменне з людзьмі новай Беларусі і па магчымасці падтрымаць свой народ, які ступіў на шлях незалежнасці і нацыянальнага адраджэння.

Гасцям была прапанавана вялікая і насычаная праграма. У першыя дні — наведанне Хатыні і Курапатаў, прыём у Беларускім экзархаце мітрапалітам Філарэтам, сустрэча са старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевічам і парламенцкай апазіцыяй, паездка на Магілёўшчыну па мясцінах, якія найбольш пацярпелі ад радыеактыўных выкідаў, сустрэчы і гутаркі ў клініцы Навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны...

У нядзелю, 1 сакавіка, уладыка Мікалай адслужыў літургію ў дамашняй царкве Беларускай епархіі. Узнёсла і ўрачыста гучалі словы яго малітвы: «Усемагутны Божа, пашлі спакой усяму свету, тваім цэрквам, святарству, багалюбнай краіне беларускай, усяму беларускаму народу, усім братам і сёстрам нашым, што па ўсім свеце раскіданыя, пашлі надзею ўсім удовам і сіротам, што беды і смуткі перажываюць, усім, хто пакутуе ад Чарнобыля на святой гэтай зямлі...» Маючы магчымасць звярнуцца да прысутных з пропаведдзю, уладыка Мікалай казаў аб прыгажосці беларускай мовы і праве кожнага чуць слова Божае на сваёй роднай мове. У гэты ж дзень ён адслужыў малебен у Петрапаўлаўскай царкве ў Мінску, дзе з гэтай нагоды сабралася шмат вернікаў, прыхільнікаў беларусізацыі праваслаўнай царквы. Хаця пэўныя зрухі ў гэтай справе ўжо і ёсць (некаторыя свяшчэннікі выкарыстоўваюць Евангелле на беларускай мове, кажуць малітвы і пропаведзі, арганізавана нядзельная школка для дзетак пры Кафедральным саборы), але да кардынальных змен яшчэ далёка. А да царквы і рэлігіі, між тым, вяртаецца і звяртаецца цяпер шмат разгубленых людзей, якія не ведаюць, да чаго імкнуцца, чаго трымацца, менавіта ў царкве яны шукаюць духоўнай падтрымкі і апоры. І калі ўжо прытрымлівацца логікі, то ў першую чаргу менавіта праваслаўная царква ў новай Беларусі ў той перыяд, калі пачаўся працэс адраджэння нацыі, фарміравання нацыянальнай самасвядомасці, павінна клапаціцца і дбаць аб духоўным выхаванні не проста абстрактнага хрысціяніна, але і грамадзяніна сваёй зямлі, патрыёта, які шануе бацькоўскія традыцыі, ганарыцца сваім народам і яго здабыткамі.

Зразумела, што прыезд уладыкі Мікалая, епіскапа Беларускай аўтакефальнай царквы, выклікаў вялікую цікавасць грамадскасці Беларусі. Нашы замежныя суайчыннікі правялі некалькі сустрэч з прадстаўнікамі творчых саюзаў рэспублікі, а таксама далі прэс-канферэнцыю для журналістаў. На пытанне аб рэлігійным жыцці на эміграцыі В. Русак адказаў:

(Заканчэнне на 7-й стар.).

**НА ЗДЫМКУ:** сустрэча гасцей з Канады і ЗША ў аэрапорце.

Фота В. СТАВЕРА.

*НА ДАРОЗЕ ДА РЫНКУ*

## І БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

**Да старшыні Саюза беспрацоўных Эдуарда НІКІФАРАВА ў мяне былі свае пытанні, але мне падалося больш патрэбным пачаць гутарку не з тых, загадзя прадуманых, а з таго, што яму набалела. Амаль што равеснік свайго прадпрыемства, Э. Нікіфараў большую частку свайго прафесійнага жыцця аддаў інжынернай працы і толькі год, як узначаліў прафсаюзны камітэт Канструктарскага бюро дакладнага электроннага машынабудавання. Ніколі да галавы не прыходзіла яму думка, што стане «падбухторшчыкам»—арганізатарам Саюза беспрацоўных.**

— Вось што вы самі думаеце пра гэту сітуацыю?

— Хацеў бы пачаць, можа, з таго, што я прадстаўляю арганізацыю, якая яшчэ нядаўна была даволі вядомай у свеце вытворцаў абсталявання для заводаў мікраэлектронікі. Быў час, калі ў нас грошы не лічылі. А цяпер мы хіба вядомыя тым, што першымі ў Беларусі стварылі Саюз беспрацоўных.

— Выходзіць, даўнейшая прымаўка «Багатаму і чорт дзяцей калыша» сёння да вас ужо не стасуецца. Але як жа здарылася, што багатае навукова-вытворчае аб'яднанне «Планар», адна назва якога выклікала зайздрасць, дажыло да Саюза беспрацоўных?

— Вельмі проста: дзяржава — уласнік нашага прадпрыемства — аказалася няздольнай забяспечыць усіх работнікаў аплачваемай працай. «Планар» быў манапалістам у Савецкім Саюзе ў стварэнні такога тыпу абсталявання. Асноўныя нашы спажыўцы знаходзяцца ў Расіі, на Украіне, на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, карацей — за межамі Беларусі. А цяпер вось гэта міждзяржаўная цераспалосіца

(Заканчэнне на 7-й стар.).

*З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ*



**Божа, да чаго мы дажылі! Кожны дзень, уключаючы тэлевізар ці радыё, адкрываючы газеты, мы з жахам даведваемся, што закрылася (і не адна!) фабрыка ці завод, абанкруціўся кааператыў ці нейкае прадпрыемства. На незапланаваную «кансервацыю» становяцца гіганты нашай прамысловасці, чые вырабы ведае ўвесь дзелавы свет. Гэта аб'яднанне «Гарызонт», завод «Бабруйскшына», «БелАЗ»... А вось яшчэ чарговае паведамленне (на здымку): апошнюю змену адпрацаваў калектыў «Гомсельмаша», які свае камбайны адпраўляў не толькі для былых рэспублік Саюза, але і за мяжу.**

**Прычына адна: не хапае матэрыяльных, фінансавых і энергетычных рэсурсаў. Падпісаны ў снежні мінулага года ў Мінску дагавор СНД на пастаўку сыравіны, камплектуючых вырабаў і інша з рэспублік былога Саюза, на жаль, не дзейнічае, застаўся толькі на паперы.**

**Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.**

# І БАГАТЫЯ ТАКСАМА ПЛАЧУЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

разбурае ўстойлівыя сувязі паміж намі, распрацоўшчыкамі, і нашымі спажыўцамі.

Ну і выходзіць парадокс. Ёсць вытворчыя плошчы, ёсць інжынерныя кадры, здатныя на рашэнне самых сучасных задач, — механікі, электронікі, праграмісты, кваліфікаваныя аператары ЭВМ; ёсць свае нерэалізаваныя «ноў-хаў» і патэнты; ёсць, нарэшце, незабяспечаны таварамі рынак збыту. І ёсць беспрацоўныя!

— Відаць, гэты парадокс цяжка будзе зразумець нашым замежным чытачам, якія жывуць у свеце вольных вытворцаў, дзе пануюць зусім іншыя адносіны.

— А для нас гэта заканамерны пераход ад адміністрацыйна-каманднай сістэмы, планавай эканомікі да вольнага рынку.

— Што найперш ставіць на мэце створаны вамі Саюз беспрацоўных?

— Мы намагаемся аб'яднаць людзей, якія сталі раптам нікому непатрэбнымі. Гэта — сацыяльны бок праблемы. Уявіце сабе, колькі мне штодня даводзіцца бачыць слёз і спачуваць чалавечаму гору. Прафесіянал, які трыццаць год прарабіў у калектыве, раптам апынецца за варотамі сам-насам са сваёй бядой. Як жыць далей? Як карміць сям'ю?

Мне іх шкада проста пачалавечы, але яшчэ больш мяне турбуе іншы бок праблемы беспрацоўя: як ратаваць інжынерныя таленты? Праз два месяцы сотні спецыялістаў высокай кваліфікацыі будуць выкінуты за вароты прадпрыемства — чвэрць усяго калектыву. Абставіны рынку вымусяць амаль што кожнага з іх ператварыцца ў чорнарабочага, назаўсёды страціць свае веды, загубіць свой вопыт. І што ад гэтага будзе мець наш народ?

Дык вось, бадай, найгалоўнейшая мэта — захаваць калектыў і яго творчы патэнцыял. Уласна гэта і падштурхнула прафсаюз, каб аб'яднаць звальняемых у Саюз беспрацоўных.

— Але як вы вырашыце гэту, на мой погляд, невырашальную задачу: адміністрацыя звольніць работніка, і таму хоць бяры мятлу, а Саюз беспрацоўных абяцае зберагчы яго як спецыяліста?

— Ёсць на прадпрыемстве плошчы, якія вызваляюцца са скарачэннем вытворчасці, ёсць неабмежаваны спажывецкі попыт. Але каб стварыць новую вытворчасць, патрэбен стартавы капітал, якога пакуль не маем. Мы ўжо накіравалі ліст Старшыні Вярхоўнага Савета Станіславу Шушкевічу і Старшыні Савета Міністраў Беларусі Вячаславу Кебічу. Просім на льготных умовах здаць нам у арэнду вызваленыя вытворчыя плошчы, даць гарантыі інвестарам нашым па капіталу. Ёсць у нашым лісце і некаторыя іншыя прапановы. Калі нам не аддадуць вытворчыя плошчы, то яны трапяць да іншых, і мы многае губляем. Спадзяёмся, што ўлады нас падтрымаюць, бо мы ж здымаем галаўны боль з іх. Не яны, а мы бяром на сябе клопат, куды падзець кваліфікаваных рабочых. Ад іх жа проста не адмахнешся — іх заняць трэба.

Саюз беспрацоўных задаўся мэтай стварыць малое прадпрыемства. Што мы будзем рабіць? Перш за ўсё — аказваць платныя паслугі сваім жа работнікам. Маем намер спрыяць развіццю надомнай працы.

Як толькі чалавек апынецца без работы і стане атрымліваць дапамогу па беспрацоўю, наш саюз будзе клапаціцца пра тое, каб даць яму часовую працу, які-небудзь дадатковы заробак. Такім чынам, мы захаваем людзей на вытворчасці, яны будуць выконваць грамадскія работы, якія будуць аплачвацца праз выканкомы.

Больш таго, мы просім ва ўрада выдзеліць зямлю ў прыгараднай зоне Мінска для агародаў — гэта падтрымала б сем'і беспрацоўных. Хочам з нейкім калгасам заключыць дагавор на ўдзел у розных работах. Нашы ж людзі ўмеюць усё: і касіць, і бульбу ўбіраць, і малаціць: навучыліся за гады шэфства над калгасамі. Так што не прападзём. Можа, возьмем зямлю ў арэнду, можа нешта іншае прыдумаем, але сваіх работнікаў забяспечым прадуктамі харчавання.

Нам трэба што б там ні было захаваць свой калектыў, каб гады праз два, калі патрэбнасці на нашу прадукцыю ўзрастуць...

— Вы так аптымістычна бачыце нашы перспектывы? Значыць, становішча ў краіне палепшыцца, і, магчыма, тады не патрэбен будзе Саюз беспрацоўных?

— Вядома ж, хаця ён можа застацца як структура прафсаюза, які не займаецца праблемай беспрацоўя. Праз два гады мы абавязаны стабілізаваць эканоміку.

— Але ж прыклад нашай суседкі — Польшчы сведчыць пра адваротнае: з кожным годам колькасць беспрацоўных павялічваецца. Цяпер яна сягае пад тры мільёны.

— У Польшчы іншыя варункі: там беспрацоўе пры насычаным рынку збыту. У Беларусі ж рынак пусты. Вось на чым нам трэба выскачыць.

— Ну, добра, будзем аптымістамі. Але скажыце, як сустрэла ўтварэнне вашага саюза адміністрацыя?

— Робіць выгляд, што Саюза беспрацоўных няма на «Планары». І тым не менш мы яе прымушаем з намі лічыцца. Першае, чаго мы дамагліся ад нашай адміністрацыі, — яна скараціла спіс тых, каго папярэдзілі аб звальненні. Мы прымушаем яе шукаць новыя заказы.

— Ці не здаецца вам, што ваш саюз падмяняе гарадскую службы рынку працы?

— Наадварот, мы толькі пазбаўляем чалавека ад беганіны і стаяння ў чэргах. Не беспрацоўны ідзе ў службу занятасці, а прадстаўнік саюза нясе туды ўсе патрэбныя дакументы. Мы не толькі скарыстаем прапановы гарадской службы працаўладкавання, але і самі будзем шукаць вакансіі. Да таго ж, мы бліжэй да вытворчасці, да рэальнага жыцця, чым гарадская служба.

— Вы не думаеце, што Саюз беспрацоўных, які ўзнік на адным прадпрыемстве — «Планары», набудзе рэспубліканскія маштабы?

— Такой задачы мы перад сабой не ставілі на ўстаноўчым сходзе. Але як толькі нам далі слова на тэлебачанні, нашым саюзам зацікавіліся ў Беларусі. Да нас просяцца. Нам звоняць, каб атрымаць кансультацыю, як і што рабіць. Звярталіся з Мінска, Віцебска, Жыткавіч, з тых прадпрыемстваў, дзе таксама маюць адбыцца скарачэнні штатаў. І мы робім усё, каб аб'яднацца перад пагрозай беспрацоўя.

— Эдуард Якаўлевіч, ведаю, што вы маеце нейкую прапанову да нашых суайчыннікаў за мяжой. У вас ёсць шанс звярнуцца да іх праз «Голас Радзімы».

**— Хацеў бы звярнуцца да замежных суайчыннікаў вось з якой прапановай. У Беларусі няма вялікіх прыродных багаццяў, але ў нас ёсць высокі навукова-тэхнічны патэнцыял, якім ганарыцца любая краіна. На жаль, у былым СССР і цяперашнім СНД гэта не цанілася і не цэніцца. Дык вось для таго каб захаваць гэты патэнцыял нацыі і потым выкарыстаць яго для развіцця незалежнай Беларусі, мы чакаем дапамогі ад нашых зарубежных партнёраў у сумесным прадпрымальніцтве. Мы маем параўнаўча танную рабочую сілу і вытворчыя плошчы. Ад партнёраў мы чакалі б гатовыя тэхналогіі і капіталаўкладанні, зразумела, сумесныя. Хто цяпер пачне з малога, той замацуецца на беларускім рынку паспяхова.**

**Мы разумеем, што зарубежныя дзелавыя людзі палохаюцца нашай палітычнай і эканамічнай нестабільнасці. Вядома, рызыка ёсць, але ж бізнес не бывае без рызыкі. Тым больш, што мы маем пэўныя прапановы, як звесці рызыку да мінімуму. Дальбог, мы не просім дармовай дапамогі. Мы чакаем прапаноў, якія грунтаваліся б на ўзаемнай выгадзе і раўнапраўным партнёрстве.**

**Гутарку вёў В. КРАСЛАЎСКІ.**

# АРКАДЗЬ СМОЛІЧ: ПАКАЗАННІ НА ДОПЫТАХ

Луцкевичам это как-то не удавалось, они оставались политическими работниками, а поскольку массовой политической работы тогда Громада почти не вела, то они были достаточно изолированы, по крайней мере от молодежи. Результатом такого положения я считаю ту чрезвычайно резкую личную борьбу, которую вели между собой Ластовский и Луцкевичи, которая не затихла до настоящего времени...

В ИБК, а позже в БАН он держался чрезвычайно пассивно. Даже на заседаниях Президиума он все время молчал. Не выступал он и в печати на политические темы. Свои научные работы он вел в том же направлении, как и в Ковно и Вильно. Меньше чем на ком-либо из белорусских эмигрантов сказалось на нем влияние советской среды. Я не слыхал, правда, чтобы он высказывал антисоветские политические взгляды, но эволюционировал он очень медленно, оставаясь по существу тем же, каким был лет 10—15 назад. Это объясняется, между прочим, тем, что русской революции он совершенно не видел, так как был тогда в Вильно. В Минске он был в хороших отношениях с некоторыми белорусскими коммунистами (Балицкий, А. Адамович), но, по-видимому, это большого влияния на него не оказало.

В БАН, как и в Музее, у Ластовского шла острая борьба с русификаторами (Сербов и др.)...

**от 20.X.30 г.**

Эта западная ориентация отражалась до известной степени и на отношениях БСГромады к Советской России. В ней мы видели прежде всего Россию вообще и фактически продолжали в отношении к ней линию недоверия и борьбы, хотя это была не прежняя тюрьма народов, а важнейший фактор их возрождения и освобождения. В то время это, однако, нами не сознавалось; наоборот, существовало определенное недоверие к искренности национальной политики компартии, ставился знак равенства в этом отношении между нею и другими русскими социалистами. Существовало кроме того убеждение в недолговечности Советской России, почему казалось рискованным связывать с ней судьбу белорусской государственности; прочное существование Советской Белоруссии считалось тем более сомнительным. Эти соображения, правда, постепенно разбивались фактами национальной политики коммунизма. Тем не менее оставалось еще одно соображение, которое, быть может, играло в этом вопросе решающую роль. Мы считали, что большевики не заинтересованы в белорусской государственности, как таковой, в перспективах белорусского движения, а значит не проявят в защите их надлежащей активности. Поэтому мы не считали возможным до окончательной развязки отказываться от своей политической роли, а наоборот, стремились к тому, чтобы приобрести значение самостоятельного международного фактора; это было одним из мотивов объявления независимости БНР и попыток ее реализации при помощи тех внешних сил, которые в то время играли решающую роль на оккупированных ими белорусских территориях и которых мы надеялись использовать в своих целях. Но эти силы были резко враждебны революции, и связь с ними заставляет оценивать всю белорусскую политическую работу того времени по созданию БНР как контрреволюционную.

Ставя себе целью осуществление белорусской государственности, БСГ представляла ее в форме демократической республики и полагала, что в этой форме господство трудящихся все же будет обеспечено их громадным численным превосходством. Впрочем, над конкретными формами и действительным плановым содержанием этой государственности задумывались мало, — это считалось внутренним делом Белоруссии, которое она успеет разрешить, добившись независимости. Внешнеполитическая конкретизация идеи БНР казалась возможной в форме государства - буфера под международной гарантией, и предполагалось, что именно это решение вопроса имеет наибольше шансов на успех, так как оно может наилучшим образом ликвидировать на мирной конференции польско-русские территориальные споры. Но если бы этот проект и не осуществился все же, казалось, международная постановка белорусского вопроса заставит хотя бы одну из спорящих сторон сделать крупные уступки в пользу белорусского движения. После заключения мира, когда стало очевидно, что осуществить проект буферной БНР не удается, делались попытки добиться от Польши максимальных уступок в отошедших к ней белорусских областях, чтобы обеспечить там возможности белорусской национальной работы, имея в виду использовать последние и в политических целях партии.

Занявшись национальной политикой, громадовцы совершенно забросили работу в массах и классовую политику. Исключением является только разная борьба с фашистской белорусской группой Алексюка - Балаховича, которая прикрывала белорусским флагом защиту интересов крупной буржуазии, а еще с Гродненской черносотенной Управой. Попытки оживить массовую работу БСГромады, правда, делались в 1919 и 1920 годах, собирались собрания, разрабатывалась даже новая программа партии, но все это ни к чему не привело, так как БСГ тогда уже потеряла доверие масс и, превратившись в интеллигентскую по преимуществу группу, сама собою ликвидировалась. В Вильне в 1921 году были разговоры о возрождении БСГромады; для многих, однако, тогда же делалось ясным, что в борьбе за социалистическую Белоруссию может быть теперь только две партии — одна за и другая против, и каждый должен решить, куда ему присоединиться.

Працяг. Пачатак у №№ 8—10.



**НА ЗДЫМКУ: народны сакратарыят БНР. А. СМОЛІЧ (у верхнім радзе злева).**

**Публікацыю падрыхтавалі Аляксей КАРОЛЬ, Уладзімір МІХНЮК.**

*ГІСТОРЫЯ БЕЗ ІДЭАЛІЗАЦЫІ*

# ВЫЗВАЛЕННЕ ЦІ НЯВОЛЯ?

## 1939 ГОД — У НАШАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СВЯДОМАСЦІ

**VII**

Савецкія акупацыйныя ўлады ў Заходняй Беларусі, каб поўнасцю падпарадкаваць сабе новыя тэрыторыі, ужывалі ў адносінах да мясцовага насельніцтва традыцыйную імперыялістычную тактыку: «падзяляй і пануй». Яны намагаліся выкарыстоўваць старыя адвечныя антаганізмы, што існавалі паміж паасобнымі народамі. Падобная тактыка мела сваю спецыфіку: ніводная з нацыянальнасцяў у Заходняй Беларусі не магла пазбегнуць рэпрэсій. Кожны народ павінен быў выпіць да дна сваю чашу гора і пакутаў, але пакуты гэтыя мелі розны характар. Палякі, зразумела, знаходзіліся ў найгоршай сітуацыі. Тэрор супраць іх, як супраць галоўных ворагаў камуністычных парадкаў, меў амаль што татальны характар. З паасобных раёнаў Заходняй Беларусі вывозілася ў ссылку амаль кожная трэцяя польская сям'я. Улады яўна намагаліся змяніць этнічны склад заходнебеларускага насельніцтва і адным моцным ударам назаўсёды ліквідаваць польскія ўплывы. У значнай ступені ім гэта ўдалося, а сённяшняе польскае нацыянальнае адраджэнне на Гродзеншчыне і паасобна ў іншых раёнах Беларусі — гэта своеасаблівая адваротная рэакцыя на тыя рэпрэсіі.

Палітыка ў адносінах да беларусаў на акупіраваных тэрыторыях мела ў сабе дзве спрэчныя тэндэнцыі. З аднаго боку, савецкая прапагандысцкая машына на ўвесь свет практычна разносіла весткі аб гістарычным аб'яднанні беларускага народа, аб вялікім святе беларусаў, а з другога — заходніх беларусаў таксама пачалі перавыхоўваць у камуністычным духу з дапамогай тэрору. Тысячы так званых беларускіх кулакоў і дробных рамеснікаў і гандляроў былі выкінуты са сваіх дамоў і накіраваны ў ссылку. Улады выказвалі ў адносінах да «вызваленых заходнебеларускіх братоў» агульны недавер і падазронасць. У нанава створанай мясцовай адміністрацыі ім прызначалі ўсяго толькі другарадныя пасады. Ніколі альбо амаль ніколі мясцовым не даручалі кіраўнічых пасад у міліцыі ці ў так званых рабочых дружынах.

Вельмі знамянальным у гэтым сэнсе з'яўляецца стасунак да былых членаў Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Яны, як вядома, першыя запрапанавалі новым уладам шырокае супрацоўніцтва і калабарацыю, але іх трактавалі ў якасці членаў варожай да новага ладу арганізацыі, якая была створана польскай контрразведкай, так званай дэфензівай. Кожны з былых камуністаў павінен быў на індывідуальнай аснове пераканаць новых паноў у сваёй адданасці. Гэта можа выглядаць парадаксальна, але практычна да кастрычніка 1940 года ўсе новастворыныя ў Заходняй Беларусі ячэйкі Камуністычнай партыі рэспублікі не прымалі ў свае шэрагі былых КПЗэбаўцаў. Існавала суровая забарона прымаць іх у партыю. І толькі пасля кастрычніка 1940 года сітуацыя крыху змянілася. Менавіта ў гэтым месяцы Цэнтральны Камітэт ВКП (б) прыняў па справе спецыяльную пастанову. Датычыла яна лёсу былых капэзэбаўцаў. Партыйны дакумент нарэшце дазваляў у паасобных выпадках прымаць іх на агульных падставах у партыю без залічэння ранейшага партыйнага стажу. Але варункам прыняцця была наяўнасць 5 (я не памыляюся — пяці) рэкамендацый ад членаў партыі з дарэвалюцыйным стажам. Як бачым, падобныя вельмі цяжкія ўмовы прыёму практычна выключалі магчымасць уступлення ў КПБ былых капэзэбаўцаў. Цікава, што адносіны да гэтых, трэба прызнаць, адданых слуг рэжыму ў асноўным не змяніліся аж да самай смерці Іосіфа Сталіна.



**Старая сялянка з Маладзечна вітае прыход байцоў Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь.**

**Фота з архіва.**

Знамянальна, што гэты свой боль, сваю абразу на партыю капэзэбаўцы пранеслі практычна праз усё жыццё. У мае рукі нядаўна трапіў ліст, адрасаваны першаму сакратару ЦК КПБ Яфрэму Сакалову, ад былога актыўнага члена КПЗБ Васіля Ласковіча. Ліст гэты датаваны паловай 1988 года і ўзнімае вельмі балючае для камуністаў пытанне — пытанне канчатковай рэабілітацыі былых капэзэбаўцаў. Аб тым, наколькі гэтае пытанне было непрыемнае для нядаўніх наменклатурных партыйных работнікаў рэспублікі, сведчыць той факт, што ўлады не дазволілі апублікаваць гэты ліст у друку, а паспрабавалі справу, як гаворыцца, «замяць». Як мне вядома, Васіль Ласковіч нават не атрымаў канструктыўнага адказу на свой мемарандум.

У сувязі з гэтым ліст яго пачаў распаўсюджвацца ў самвыдаце і такім чынам стаў вядомы даволі шырокім колам беларускага грамадства. «Пасля агульнанацыянальнай радасці з нагоды вызвалення, — піша Ласковіч у сваім лісце, — на другі дзень пасля прыходу Чырвонай Арміі ўсіх рэвалюцыянераў, членаў КПЗБ, камсамольцаў, якія толькі што выйшлі на свабоду з турмаў і лагераў, не толькі не прызналі, але абвясцілі ворагамі, а саму КПЗБ абвясцілі ў якасці партыі, створанай польскай дэфензівай. Больш страшнага вар'яцтва цяжка было нават чакаць. Наша барацьба, нашы пакуты, наша мара аб вялікім камуністычным шчасці была асмеяна і аплявана. Больш таго, шмат каго з былых членаў КПЗБ арыштавалі, а рэшта аказалася пад шчыльным каўпаком энкавэдысцкага нагляду... Нашы ворагі ад гэтага ідыятызму, які насаджаўся на свабоднай зямлі, хапаліся за жываты ад рогату. А нашы сэрцы, сэрцы рэвалюцыянераў, якія па-сапраўднаму любілі савецкую ўладу, пачалі крывавіць...»

Я не з'яўляюся прыхільнікам камуністычнай ідэалогіі. Усякі фанатызм, нават у самай высакароднай справе, мне чужы. І, як гісторык, я разумею, што Васіль Ласковіч служыў не найлепшай справе, антыгуманнай таталітарнай ідэалогіі. Але як чалавек, як беларус я добра разумею пакуты і боль гэтага чалавека. І па-чалавечаму мне шкада яго, шкада пагібелі яго ілюзій, яго загубленага камуністамі ж жыцця.

Аб рэальных адносінах улад да мясцовых камуністаў сведчаць даныя аб масавым накіраванні ў Заходнюю Беларусь партыйных і камсамольскіх функцыянераў з Усходу. Менавіта яны занялі ўсе кіраўнічыя пасады ў дзяржаўным і партыйным апараце на новых савецкіх тэрыторыях. Ужо ў верасні і кастрычніку 1939 года сюды накіравана 700 камуністаў і 800 камсамольцаў. Да траўня 1940 года тут было ўтворана 960 пярвічных партыйных арганізацый, у шэрагах якіх знаходзілася больш за 9 тысяч камуністаў. Амаль усе яны былі прыезджымі з Усходу. Што датычыцца камсамола, дык тут варункі прыёму былі больш лагоднымі. У траўні 1940 года сярод 23 611 членаў ЛКСМБ 14 840 камсамольцаў прыехала з Усходняй Беларусі і Савецкага Саюза, а 8 771 (альбо 37 працэнтаў) выводзілася з мясцовых жыхароў.

Рэпрэсіі былі, як вядома, галоўным метадам кіравання заходнебеларускімі тэрыторыямі, далучанымі да Савецкага Саюза. Трэба было ў даволі хуткім часе ажыццявіць поўную уніфікацыю новых зямель з рэштай Савецкай краіны. Трэба было знішчыць усе апазіцыйныя элементы, і ў першую чаргу незалежную вольную беларускую інтэлігенцыю, нават тую, якая мела пракамуністычныя погляды. Але характар рэпрэсій на тэрыторыі Заходняй Беларусі не быў аднастайны. Калі ў Вільні ў сувязі з даволі хуткім адыходам Чырвонай Арміі з горада рэпрэсіі ажыццяўляліся ў надзвычай прыспешаным тэмпе, дык у адносінах да рэшты акупіраваных тэрыторый можна і трэба было крыху пачакаць. Неабходна было наладзіць грандыёзны спектакль, спектакль-фарс аб свабодным добраахвотным выказванні волі беларускага народа жыць у варунках так званай аб'яднанай сацыялістычнай бацькаўшчыны. Сталіну патрэбны быў легальны фундамент будавання новага нацыянальнага дому для беларусаў. І гэты фіктыўны легалізм магло забяспечыць яму правядзенне Народнага Устаноўчага Сходу Заходняй Беларусі. Сход быў праведзены на падставе вынікаў так званых усеагульных выбараў, у якіх, паводле афіцыйных даных, удзельнічала аж 96,7 працэнта маючых права голасу. 90,7 працэнта выбаршчыкаў падтрымалі падабраных уладамі кандыдатаў. Аб верагоднасці гэтых лічбаў, як мне здаецца, няма ніякага сэнсу дыскутаваць. Былі гэта выбары ва ўмовах ваеннай акупацыі, і іх вынікі былі вызначаны яшчэ да іх правядзення. У Маскве была распрацавана так званая «разнарадка» для паасобных катэгорый дэпутатаў. Адпаведныя квоты атрымалі прадстаўнікі інтэлігенцыі, так званага працоўнага сялянства і рабочага класа, кабеты. Былі нават вытрыманы прапорцыі паміж паасобнымі нацыянальнасцямі, што насялялі Заходнюю Беларусь. Прапорцыі гэтыя амаль дакладна адпавядалі ўяўленням акупацыйных улад аб нацыянальным складзе заходнебеларускага насельніцтва. Сярод 926 дэпутатаў Народнага Сходу быў 621 беларус (67 працэнтаў), 127 палякаў (14 працэнтаў), 72 яўрэі (8 працэнтаў), 53 украінцы (5,7 працэнта) і 43 рускія (4,6 працэнта). Амаль усе дэпутаты былі мясцовага паходжання, і большасць з іх у свой час належала да КПЗБ. Капэзэбаўцы-дэпутаты і аказаліся найлепшымі выканаўцамі дзеля розыгрышу фарса энтузіястычнага далучэння заходнебеларускіх зямель да СССР.

На з'ездзе панавала атмасфера радаснага прывітання новых улад. Васіль Ласковіч, аўтар прыгаданага раней ліста да ўлад Савецкай Беларусі, успамінае: «Мы ўсе былі перапоўнены радасцю і любоўю да бацькаўшчыны, да краіны Саветаў, да ідэалаў сацыялізму... Затое кіраўніцтва тагачаснай Беларускай ССР Панамарэнка, Бялецкі і Гарбуноў ставіліся да нас з пагардай і недаверам. Характэрна, што ні ў адным з дакументаў з'езда нават не было згадана пра КПЗБ, пра ролю заходнебеларускіх камуністаў у агульнай барацьбе з фашызмам. Амаль усё на з'ездзе, — прадаўжае Васіль Ласковіч, — рабілася абразлівым для нас спосабам, недалікатна і супраць гістарычнай праўды. Пасля заканчэння з'езду ніхто нават добрага слова не выказаў у наш адрас. Іншымі словамі: пасля з'езду мы атрымалі ўдар пад зад і раз'ехаліся па дамах».

Для савецкіх камуністаў падобныя адносіны да сваіх хаўруснікаў не былі чымсьці надзвычайным. Атмасфера татальнай падазронасці, недаверу і здрады ўчарашніх нават найбліжэйшых сяброў ужо даўно панавала на Усходзе. Такім чынам, у Заходнюю Беларусь папросту перанеслі сталінскія метады кіравання і ўлады.

Камуністы, былыя члены КПЗБ, тады яшчэ не разумелі, што напачатку савецкія ўлады ставіліся да іх ліберальна, што цяжкая гадзіна для іх яшчэ наперадзе. І сапраўды вельмі хутка пасля іх выкарыстання ў якасці народных дэпутатаў прыйшлі арышты, высылкі і іншы пераслед.

Рэпрэсіі на тэрыторыі Заходняй Беларусі датычылі ўсіх слаёў насельніцтва, але ў адносінах да беларусаў яны мелі сваю спецыфіку. У прыблізнай агульнай лічбе рэпрэсіраваных (каля 400 тысяч чалавек) беларусы складалі амаль 30 працэнтаў (120 тысяч). Вядома, што найбольш востры тэрор быў скіраваны супраць палякаў, якія і складалі большасць арыштаваных, высланых і засуджаных. Сярод жа беларусаў высяленню падлягалі сем'і найбольш заможных сялян, працаўнікоў мясцовай польскай адміністрацыі, дзеячаў сялянскага самакіравання і практычна ўся (хаця яна і была вельмі нешматлікая) беларуская інтэлігенцыя. Трэба было знішчыць не толькі наяўных, але і патэнцыяльных ворагаў Савецкай улады ў беларускім асяроддзі.

Дакладная колькасць рэпрэсіраваных (на жаль, пакуль мы не маем доступу да архіваў НКУС) невядомая. Прыведзеныя лічбы ў значнай ступені заснаваны на пасрэдных падліках і паказаннях сведкаў з розных куткоў Беларусі. Але ў гэтым выпадку мне хацелася б звярнуць увагу на адну вельмі важную акалічнасць. Вядома, якім жорсткім рэпрэсіям і дэнацыяналізацыі падвяргаліся беларусы з боку польскіх улад Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Але лёс зрабіў беларусам вельмі прыкрую паслугу назат і тады, калі яны разам з палякамі падзяргаліся пераследу з боку новых улад Заходняй Беларусі. Высылкі ў Сібір, на Далёкі Усход, зняволенне ў лагерах і да т. п. неспадзявана сталі моцным сродкам новай паланізацыі беларускага насельніцтва. Трэба прызнаць, што вельмі часта сярод рэпрэсіраваных і так не існавала выразнай нацыянальнасведамай мяжы, а тут у варунках сталінскіх засценкаў яна пачала знікаць зусім. Гора, як вядома, вельмі часта аб'ядноўвае пакрыўджаных, а тут яшчэ прызнанне да польскай нацыянальнасці было адзінай магчымасцю выратавацца, адзінай магчымасцю пазбегнуць галоднай смерці. Справа ў тым, што з пачаткам нямецка-савецкай вайны, так званай айчыннай вайны, адносіны савецкіх улад да палякаў карэнным чынам змяніліся. Раптам неспадзявана з лютага ворага яны пераўтварыліся ў баявога хаўрусніка і сябра. Пачалося стварэнне польскай арміі генерала Андэрса. Армія гэта для многіх вязняў стала сімвалам выратавання, крыніцай надзеі. Вось чаму вельмі шмат беларусаў падаліся да палякаў, каб трапіць у гэтае польскае войска. І самае цікавае і для нас, беларусаў, даволі прыкрае: назаўсёды яны так і засталіся палякамі. Слова «паляк» для іх стала сінонімам паслядоўнага ворага ненавіснай таталітарнай Савецкай улады, сінонімам барацьбы за свабоду і незалежнасць. Вось чаму, як сцвярджаюць некаторыя даследчыкі, беларусы складалі каля 10 працэнтаў арміі генерала Андэрса. Таму і сёння на сходах ветэранаў гэтага войска ў Лондане, Нью-Йорку ці Парыжы даволі часта гучыць крыху спольшчаная наша беларуская гаворка, якую самі яе носьбіты называюць «пальшчызнай крэсовай».

1939 год знаменаваў для беларусаў, як бачым, не толькі аб'яднанне амаль усіх беларускіх зямель, але і страшлівую агульнанацыянальную трагедыю, трагедыю знішчэння інтэлектуальнай, гаспадарчай і працоўнай эліты беларускай нацыі. Ад гэтага моцнага ўдара, які нанесла нашаму народу сталіншчына, ён не апраўіўся аж да сённяшняга дня. Адбудова ўсяго знішчанага яшчэ перад намі.

**Мікола ІВАНОЎ.**

**АД РЭДАКЦЫІ: Мы закончылі публікацыю серыі артыкулаў Міколы ІВАНОВА, у якіх вучоны выказвае свой погляд на падзеі. звязаныя з вызваленнем Заходняй Беларусі Чырвонай Арміяй у верасні 1939 года і ўз'яднаннем яе з Беларуссю Савецкай. Гэта пункт погляду з дыстанцыі больш 50 гадоў і магчымасцей сённяшняга дня, калі адсутнічае ціск афіцыйнай ідэалогіі і панаванне камуністычнай гістарыяграфіі. Мы далёкія ад думкі, што канчатковую ісціну абвясціў толькі М. Іваноў, што не можа быць іншых меркаванняў аб гэтай праблеме.**

**Рэдакцыя гатова кожнаму, хто хацеў бы выказаць сваю згоду ці нязгоду з аўтарам, абвергнуць ці паправіць яго, прадаставіць старонкі «Голасу Радзімы».**

### ЗНОЙДЗЕНА Ў КНІГАСХОВІШЧАХ ПОЛЬШЧЫ

# БІБЛІЯТЭКА ВІКТАРА КАЛІНОЎСКАГА

Апошні так прадставіў маладога вучонага: «Заўсёды ў пашарпаным адзенні, які харчаваўся беднай ежай у якой-небудзь полькі кухмайстаршы, Каліноўскі мала клапаціўся аб сваім жыццёвым камфорце і, можна сказаць, ва ўсіх адносінах быў чалавекам «як не з гэтага свету».

Разам з тым Кастамараў даў захопленую ацэнку прафесійным якасцям Віктара Каліноўскага: «Мне не здаралася ў жыцці бачыць чалавека, з такім захапленнем адданага археграфіі і гісторыі... Яго веды не ішлі далей Літвы (больш дакладна — Беларусі, Літвы. —**В. Ш.**) і Польшчы, але затое яго можна было назваць хадзячым каталогам самых дробязных звестак пра мінулы быт гэтых краёў».

Сціплае матэрыяльнае становішча Віктара Каліноўскага ўскладнялася яшчэ і тым, што на ім, як на старэйшым браце, ляжаў асноўны клопат пра малодшых братоў, што вучыліся ў Пецярбургу. Акрамя Кастуся, у сталіцы ў той час пражывалі яшчэ два браты Каліноўскія, дакладныя імёны якіх мы, на жаль, пакуль не ведаем. Пра іх, як сведчаць пісьмы Віктара Каліноўскага да Аўгуста Бялёўскага, даводзілася клапаціцца старэйшаму брату, які, відаць, нярэдка дзяліўся з імі сваімі мізэрнымі заробкамі.

Тым не менш у бібліятэцы Віктара Каліноўскага меліся кнігі, кошт якіх дасягаў некалькіх дзесяткаў рублёў, а ўся бібліятэка налічвала некалькі сацень тамоў. Пра шляхі фарміравання гэтай унікальнай бібліятэкі часткова расказвае перапіска Адама Кіркора з сябрам Віктара Каліноўскага, малодшым бібліятэкарам Імператарскай Публічнай бібліятэкі Дамінікам Іваноўскім. У прыватнасці, 15 лістапада 1857 года А. Кіркор з Вільні пісаў Д. Іваноўскаму ў Пецярбург: «Жадаемыя кнігі для Каліноўскага магу выслаць у кошт будучай аплаты, але іх кошт складзе некалькі дзесяткаў рублёў. Бянткоўскі (маецца на ўвазе работа Бянткоўскага «Гісторыя польскай літаратуры», прадстаўленая апублікаванымі работамі. — **В. Ш.**) вельмі рэдкі і дарагі. Вішнеўскі (?) таксама. Танна такіх кніг цяпер купіць нельга. Я табе паведамлю іх кошт, а ты адкажы, ці трэба іх прысылаць Каліноўскаму». У пачатку наступнага года (10 лютага 1858 года) Кіркор пытаецца ў Іваноўскага: «Паведамі мне, ці выслаць Каліноўскаму кнігі, аб якіх ён прасіў». І нарэшце 4 сакавіка 1858 года, відаць, атрымаўшы сцвярджальны адказ Іваноўскага, Кіркор паведамляе яму: «Бібліяграфічныя нарысы» Ехера яму (г. зн. Каліноўскаму. — **В. Ш.**) высылаю. Няхай піша, што яшчэ трэба».

Такім чынам, можна амаль беспамылкова меркаваць, што працы Бянткоўскага і Ехера, якія меліся ў бібліятэцы В. Каліноўскага, былі набыты Кіркорам у Вільні і прысланы Віктару Каліноўскаму ў Пецярбург. Факт гэты сам па сабе вельмі цікавы, ён сведчыць аб сувязях Адама Кіркора і Віктара Каліноўскага. Не выключана, што многія выданні па гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якія выходзілі на тэрыторыі Беларусі ў XVI—XVIII стагоддзях і якія меліся ў бібліятэцы Віктара Каліноўскага, былі набыты ім праз Кіркора. Відаць, за нейкую частку выкананых для яго Віктарам Каліноўскім работ А. Кіркор разлічваўся з ім патрэбнымі для Віктара кнігамі.

**Заканчэнне. Пачатак у № 10.**

Такім чынам, «Каталог», складзены ў 1864 годзе ў Пецярбургу, зафіксаваў у бібліятэцы Віктара Каліноўскага 230 кніг. Але на самай справе іх было значна больш, таму што шэраг кніг, якія належалі Віктару Каліноўскаму, у «Каталог» не трапіў. Пра гэта, у прыватнасці, сведчыць перапіска Аўгуста Бялёўскага з Дамінікам Іваноўскім, дзе называецца некалькі кніг, падораных А. Бялёўскім Віктару Каліноўскаму (напрыклад, шматтомны «Слоўнік польскай мовы» Б. Ліндэ) і інш., якіх у «Каталогу» няма. Пра гэта сведчыць таксама знойдзеная ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы АН УССР у Кіеве кніга, што належала Віктару Каліноўскаму («Жартоўныя трагедыі», выданая ў 1642 годзе ў Торуні на беларускай мове), якая таксама ў «Каталогу» яго бібліятэкі не значыцца. Аб яе прыналежнасці Віктару Каліноўскаму сведчыць зроблены апошнім на тытульным аркушы кнігі ўласнаручны надпіс на польскай мове: «Віктар Каліноўскі. 18 лістапада 1857 г. Пецярбург».

Гэтыя факты дазваляюць зрабіць вывад, што ў «Каталог» унесена толькі частка кніг, якія належалі Віктару Каліноўскаму. Як растлумачыць гэтую з'яву? Несумленнасць складальнікаў «Каталога» ў даным выпадку трэба выключыць. Больш правільным будзе ўявіць, што бібліятэка Віктара Каліноўскага пачала драбіцца і распыляцца значна раней, чым складаўся «Каталог» (г. зн. раней за 1864 год).

Магчыма, што ўжо восенню 1862 года, пакідаючы Пецярбург, Віктар Каліноўскі, які захварэў на туберкулёз, павёз з сабой да бацькі ў Якушоўку не толькі свае рукапісы (пра што паведамлялася ў 1913 годзе ў дадатку да 1-га тома «Успамінаў» Я. Гейштара), але і частку, відаць, найбольш каштоўных кніг.

Такім чынам, вроцлаўскі «Каталог» улічыў, на наш погляд, толькі значна збядненую частку яго бібліятэкі, якая засталася пасля ад'езду Віктара Каліноўскага з Пецярбурга.

Больш таго, бібліятэка Віктара Каліноўскага, як нам здаецца, падвергнулася па меншай меры яшчэ аднаму драбленню ў час знаходжання Кастуся Каліноўскага ў Пецярбургу напярэдадні паўстання (канец 1862 — пачатак 1863 гадоў). Дакументальна вядома, што ў сярэдзіне лістапада 1862 года адразу пасля смерці Віктара Кастусь, які знаходзіўся тады на нелегальным становішчы, прыбыў у Якушоўку да бацькі, а затым тэрмінова выехаў у Пецярбург, дзе прабыў да 8 студзеня 1863 года.

Ёсць усе падставы меркаваць, што апошняя паездка Кастуся ў сталіцу Расійскай імперыі была звязана з лёсам маёмасці Віктара Каліноўскага, і ў прыватнасці, бібліятэкі, што заставалася там. Калі б гэта паездка праследавала іншыя (г. зн. канспіратыўныя) мэты, як лічаць некаторыя даследчыкі, то Кастусю Каліноўскаму, які, як мы сказалі, знаходзіўся на нелегальным становішчы, не было патрэбы гаварыць пра яе свайму бацьку. Але паколькі з яе дэталямі быў азнаёмлены Сямён Стэфанавіч Каліноўскі, то, відаць, яе мэты не насілі нелегальнага характару. (Самае большае, што можна ўявіць: канспіратыўныя мэты ў гэтым выпадку маглі сумяшчацца з легальнымі). Можа быць менавіта таму бацька Каліноўскага, які, як нам здаецца, добра арыентаваўся ў становішчы, без ваганняў па першаму патрабаванню аддаў ваўкавыскаму ваеннаму начальніку палкоўніку Казанлі пісьмо Кастуся Каліноўскага, прысланае з Пецярбурга. Адсюль можна заключыць, што ніякіх тайнаў гэта пісьмо не змяшчала. (Яно было атрымана ў Якушоўцы 5 снежня 1862 года).



Katalog

Książek pozostałych po ś.p. Wiktorze Kalinowskim

w Petersburgu. 1864 r.

**«Каталог» кніг Віктара Каліноўскага, знойдзены аўтарам артыкула Вячаславам Шалькевічам у бібліятэцы імя Асалінскіх у Польшчы.**

Думаецца, што ў час апошняга знаходжання Кастуся Каліноўскага ў Пецярбургу з бібліятэкі зноў была ўзята значная колькасць як кніг, так і рукапісаў. Астатняя ж частка бібліятэкі была перададзена на захаванне надзейнаму чалавеку. У нас не можа быць ніякага сумнення, што той, хто назіраў за захаваннем кніг у Пецярбургу, з поўнай падставай разглядаў малодшага брата Віктара — Кастуся як законнага спадчынніка рукапісаў і кніг, што засталіся ў сталіцы, як паўнапраўнага гаспадара, які мог распараджацца бібліятэкай на свой погляд. Пра гэта, нам здаецца, сведчыць дата складання «Каталога» — 1864 год! Як бачым, «Каталог» складаўся два (ці амаль два) гады пасля смерці ўладальніка бібліятэкі — Віктара Каліноўскага.

Значыць, увесь гэты час пытанне аб лёсе бібліятэкі не стаяла, паколькі яна аўтаматычна пераходзіла ў рукі яго брата Кастуся, які ў гэты час знаходзіўся на радзіме, дзе палаў пажар паўстання. Але толькі тады было пастаўлена пытанне аб далейшым лёсе бібліятэкі, што засталася без гаспадароў, калі даверанай асобе Каліноўскіх у Пецярбургу стала вядома пра лёс Кастуся (яго пакаралі смерцю 22 сакавіка 1864 года ў Вільні). Значыць, мы маем права разглядаць Кастуся як апошняга законнага і паўнапраўнага ўладара гэтага унікальнага збору кніг. Але, думаецца, не толькі па праву спадчыннасці Кастусь Каліноўскі меў самыя непасрэдныя адносіны да гэтай бібліятэкі, а таму што удзельнічаў у яе стварэнні з моманту яе узнікнення.

Успомнім, якое месца займалі кнігі ў жыцці самога Канстанціна. У студэнцкія гады ён выбіраўся таварышамі на вельмі ганаровую пасаду — бібліятэкара студэнцкага зямляцтва. Акрамя таго, у Кастуся з Віктарам заўсёды былі агульныя навуковыя інтарэсы, іх звязвала сумесная навуковая работа ў Імператарскай Публічнай бібліятэцы, блізкасць грамадска-палітычных поглядаў, а магчыма і сумеснае пражыванне ў Пецярбургу, чаго, на жаль, мы пакуль не ведаем (як не ведаем і пецярбургскага адраса Віктара Каліноўскага).*

Усё гэта дае падставы сцвярджаць, што бібліятэка стваралася сумеснымі намаганнямі абодвух братоў і таму з'яўлялася іх сумеснай уласнасцю. А калі так, то каштоўнасць гэтай і без таго унікальнай бібліятэкі для нас яшчэ больш узрастае. Яна з'яўляецца сапраўды вялікай старонкай нашай нацыянальнай гісторыі, неад'емнай часткай нашай духоўнай культуры. І наш абавязак — прасачыць лёс гэтай бібліятэкі, вывучыць гісторыю ўваходзіўшых у яе кніг.

Загадзя можна сказаць, што пошук прынясе выдатныя вынікі. Пра гэта сведчаць некалькі кніг з бібліятэкі братоў Каліноўскіх, знойдзеных у наш час у фондах бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Пецярбургу. Заслуга ў гэтым нашай зямлячкі (ураджэнкі Глыбоцкага раёна Віцебскай вобласці) Марыі Ткачэнкі. У 1985 годзе ёю была выпадкова выяўлена ў фондзе «Паліграфія» кніга з аўтографам Віктара Каліноўскага. Гэта была кніга Станіслава Тупіка «Смерць Паўла Яна Сапегі...» (Вільня, 1667). У вышэйпамянёным вроцлаўскім «Каталогу» яна ўнесена пад нумарам 32. Затым М. Ткачэнка знайшла яшчэ чатыры кнігі з бібліятэкі Віктара Каліноўскага. Прычым пошук яна вяла, не падазраючы аб існаванні вроцлаўскага «Каталога» бібліятэкі Каліноўскіх. Знаходкі М. Ткачэнкі даюць падставу меркаваць, што частка кніг з бібліятэкі Каліноўскіх засталася ў Пецярбургу.

На шляху пошуку бібліятэкі братоў Каліноўскіх нас могуць чакаць такія знаходкі, на якія разлічвала і спадзявалася не адно пакаленне даследчыкаў: гэта перш за ўсё кандыдацкая Кастуся Каліноўскага, нават назвы якой мы не ведаем, а таксама самастойная гістарычная праца Віктара Каліноўскага «Уманская разня».

Таму цяпер, не адкладаючы справы на лепшыя часы, абапіраючыся на вроцлаўскі «Каталог», неабходна пачаць пошукі кніг з бібліятэкі братоў Каліноўскіх у кнігасховішчах Санкт-Пецярбурга, Вільнюса, Кіева, Львова, Масквы, а таксама ў Польшчы.

З бібліятэкі Каліноўскіх знойдзена пакуль толькі шэсць кніг. А трэба адшукаць яшчэ больш за дзвесце. Зразумела, гэту пошукавую працу не па сіле выканаць аднаму чалавеку, ахопленаму нават самымі палымянымі падзвіжніцкімі пачуццямі. Гэта задача для вялікай колькасці людзей. Ёю павінны зацікавіцца нашы вядучыя бібліятэкі рэспублікі — Дзяржаўная бібліятэка Рэспублікі Беларусь імя У. І. Леніна, Цэнтральная навуковая бібліятэка АН Рэспублікі Беларусь імя Якуба Коласа, а таксама нашы навуковыя ўстановы — Інстытут літаратуры і Інстытут гісторыі АН Рэспублікі Беларусь. Вынікі гэтага крайне неабходнага пошуку будуць карысныя для ўсёй беларускай культуры.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

* У час свайго апошняга знаходжання ў Пецярбургу Кастусь Каліноўскі жыў на Вялікай Пасадскай вуліцы. Ці не тут захоўвалася бібліятэка?

# ІЗ АГНЮ ДЫ Ў ПОЛЫМЯ

**Міхась КАВЫЛЬ**

Думкі, як шалёныя, замітусіліся ў галаве Язэпа: «Што я скажу, калі ён падыйдзе і запытае, куды я еду? Сказаць, што еду ў Маскву, тое самае, што сказаць «еду ў Варонеж». І раптам Язэп абрадаваўся: «Арол... Нерэжымны горад. Скажу, што еду ў Арол...» З гэтай вясёлай думкай зірнуў у той бок, дзе стаяў Сяргееў, але там яго ня было... «Ну, дзякуй Богу, здаецца, пранесла!.. Хаця, чорт яго ведае, пазнаў ён мяне ці не? Калі пазнаў, як кажуць расейцы, «дружба дружбай, а служба службай». Трэба паглядзець, куды ён пайшоў. Калі ў галаву цягніка, перайду ў другі вагон». І Лабач выйшаў у праход, паглядзеў управа, улева. Сяргеева ўбачыў Язэп у канцы вагону ў галаве цягніка. Стаяў ён з нейкім пажылым вайскоўцам, стаяў плячыма да Язэпа. Нядоўга думаючы, Лабач спакваля пакрочыў у другі канец цягніка, каб перабрацца ў другі вагон. Перабірацца яму ня было куды, бо вагон, у якім ён ехаў, быў апошні. Перабрацца Язэп мог толькі на буфэр і сігнуць на рэйкі. Гэта было рызыкоўна: мог зламаць нагу ці руку. На шчасьце, рызыкаваць не давялося, бо цягнік набліжаўся да станцыі, стаў сьцішаць хаду. Як толькі завізжалі тармазы, Язэп на хаду саскочыў на пэрон і нырнуў у натоўп сьвіткаў, пальто і шынэляў. Дабраўшыся да залі, затрымаўся, каб ацаніць сытуацыю. Аглянуўся, ці ня ідзе за ім Сяргееў. Праз вакно ўбачыў яго чырвоны аколыш каля цягніка. Паглядзеў на дзьверы, праз якія мусіў выходзіць на вуліцу. Там стаяў чалавек у шынэлі, правяраў дакуманты ў вайскавікоў, якія заходзілі ў залю. У тых, якія выходзілі із залі, не правяраў. Другі кантралёр, у жалезнадарожнай форме, правяраў білеты ў цывільных. Тых, што выходзілі, не чапаў. «Значыць, — сказаў сам сабе Язэп, — «дело в шляпе». «Шляпы» ў яго ніколі ня было, задраў казырок шапкі ўгару і гэтакім гусарам пайшоў на «прорыв вражеской цепи»...

Стоячы, скулябіўшыся ад ветру і ранішняй студзёнасьці на трамвайным прыпынку, спакойна разважаў: «Мэдінстытут яшчэ зачынены. Клаша, напэўна, жыве ў студэнцкім агульнажытку. Агульнажытак мэдычак знаходзіцца там, дзе і студэнтаў Пэдінстытуту — недалёка ад заводу «Камінтэрн».

Прыбарабаніла «Чацьвёрка». Праз якіх дваццаць хвілінаў Язэп стукаў у дзьверы загадчыцы агульнажытку. Ведаў Язэп яе асабіста, бо ня раз яна гнала яго «спаць» із ленінскага «уголка», дзе ён заседжваўся бывала ажно да дванаццатай гадзіны. Заседжваўся, бо перапісваў канспекты лекцыяў па літаратуры і гісторыі. Канспектавала тыя лекцыі добрая і ўвішлівая студэнтка Надзея Гранкіна і «пазычала» іх Язэпу. Сам ён канспектаваць ня мог, бо, адпрацаваўшы восем гадзінаў на заводзе, на лекцыях вячэрняга курсу кляваў носам...

Загадчыца, чарнявая пажылая кабеціна, праз заспаныя вочы, бадай, не пазнала Язэпа, бо не павіталася, як было раней, а незадаволена запытала: «Што табе прысьпічыла так рана?» Язэп адказаў запытаньнем: «Ці ня скажаце мне, у якім пакоі жыве студэнтка Мэд-курсаў Клава Пятрова?»

— А хто яна для цябе: сястра, ухажорка?

— Двеюродная сястра..

— Так я табе і паверыла. Твая Клава пазаўчора паехала на фронт...

Дзьверы грымнулі, як гармата. Як кантужаны, паплёўся Язэп у рабочы пасёлак «Камінтэрну», спадзеючыся пабачыць Васіля Васільявіча і аглушыць сябе алкаголем. Дома застаў Язэп толькі Марусю. Зь ёю і «раздушылі» чацьвярцінку...

Ад Марусі Язэп даведаўся, што Васіля мабілізавалі ў першыя дні вайны. «Жыве ён ці забіты, хто ведае»... — І Маруся заплакала.

Нагаварыўшы Марусі кучу ласкавых слоў, моцна пацалаваўшы ў скронь, Лабач разьвітаўся з Марусяй і падаўся на станцыю. Пашчасьціла Язэпу і на гэты раз. Пашпарт у яго быў варонежаўскі, але з сакрэтнай адзнакай пра судзімасьць за палітыку. Кантралёр ці ня ведаў пра тую адзнаку, ці не заўважыў, Лабача не затрымаў. Не салёна, як кажуць, пахлябаўшы, вярнуўся ён у Давыдаўку. Убачыўшы гаспадыню, адразу запытаў: «Не прыходзілі госьці?» — «Не, не прыходзілі,» — адказала Варвара Мікалаяўна і запытала: «А што ў цябе? Бачыўся з Клашай?» — «Не, Клаша ўжо ваюе...»

## БЫЛІЦА ШОСТАЯ

Арына Максімаўна Раманава, загадчыца студэнцкага агульнажытку, па старой звычцы супрацоўніцы «Органаў» — справукаў нікому пабочнаму пра сваіх падапечных не даваць — не сказала праўду Язэпу Лабачу пра Клашу. Ні на які фронт Клаша яшчэ ня ехала, а спала моцна юнацкім сном на раскладушцы ў невялічкім пакойчыку.

Арына Максімаўна, убачыўшы Лабача, адразу яго пазнала і ўнутрана скаланулася, як сабака, натрапіўшы на заячы сьлед. Ведала яна добра студэнта Лабача, які калісь жыў у пакойчыку каля дзьвярэй, там, дзе жыве Клаўдзія Пятрова з студэнткай Верай Гранкінай. Ведала Арына Максімаўна і тое, што Лабача выгналі із Пэдінстытута і забаранілі жыць і паяўляцца ў Варонежы. А ён вазьмі ды зьявіся... «Чаго-б гэта?.. Ды яшчэ хацеў пабачыцца з курсанткай сакрэтнага вучылішча. Тут штосьці пахне падазронасьцю». І Арына, адправіўшы Язэпа Лабача, пакавыляла ў сваю «канцылярыю», як ганарова называла сваю невялічкую «камнатушку», дзе і днявала, і начавала, часам не адна... Пасьпяшала яна да тэлефону, каб пазваніць «куды трэба» пра зьяўленне ў Варонежы «нарушыцеля паспартызацыі» а, можа, і ня толькі «нарушыцеля», а нямецкага лазутчыка... Ужо зьняла трубку, але павесіла назад: стукнула ў галаву думка «дапрасіць Клашу»... Тут супрацоўніца «Органаў» прашляпіла. Пазвані яна «куды трэба», магчыма, Язэп Лабач із Варонежа ня выехаў бы ў Давыдаўку, а загрымеў туды, адкуль цяжка вярнуцца. Арына Раманава адлічалася непастаянствам характару, нястрыманасьцю ва ўсіх адносінах, самалюбствам і нераўнадушнасьцю да маладых хлопцаў. Сама была грэшніца, але сужэнцу грахі не даравала. Калі даведалася, што яе сужэнец, асьпірант Пэдінстытуту Мікалай Мікалаявіч «кpyціцца» з студэнткай Сьветай Івановай, жонкай начальніка Абласнога НКВД, нядоўга задумоўвалася над тым, званіць «куды трэба» ці не званіць... Начальнік нядоўга ламаў галаў, як скруціць галаў Мікалаю Мікалаявічу: ляжала ў яго ў стале «Рэцэнзія» на кнігу Мікалая дзе «крытык» зьвяртаў увагу Мікалаявіча Раманава «Статуя», «Органаў» на вокладку кнігі, дзе «таварыш Сталін выглядае нейкім замухрышкам...» Хаця ў гатым віна была мастака, а ня аўтара, Мікалай Мікалаявіч апынуўся за кратамі. Арына для прыклёпу ўсплакнула, калі прыйшлі забіраць сужэнца, насіла «перадачу», пакуль «здраднік» сядзеў пад бокам, а як загрымеў у Сібір, стала прыглядацца да студэнтаў маладзенькіх, бо і сама была яшчэ маладая, усяго трыццаць гадоў. Тады прыгледзелася і да Язэпа. Ведала яна, як жывуць студэнты: радыя хлеба акрайчыку, а таму аднойчы запрасіла Лабача да сябе «пагутарыць па душах»... На стале стаяла чацьвярцінка гарэлкі, на элякрычнай печцы пяклася яечня. Смачна пахла ў пакойчыку загадчыцы, і сама яна не пашкадавала надушыцца «трайным адэкалёнам»...

Калі чацьвярцінка апаражнілася, у галовах завалодалі мазгамі алкагольныя чорцікі, Арына лягла на ложак і расхіліла ногі, прыкрыла шэрыя вочы нахварбаванымі чорнымі павекамі... Язэп паглядзеў на распусьніцу, ціхенька вылез із-за століка і гэтак-жа ціхенька адставіў табурэтку, якой Арына падперла дзьверы, і... зматаўся із агульнажытку. Зматаўся назаўсёды: знайшоў сабе танны пакойчык недалёка ад «Камінтэрну».

Перажыць абразу Арыне дапамагло наведваньне начальніка, сужэнца Сьвятланкі. Наведваўся ён ня часта, але ніколі не ўцякаў так, як Язэп... Начальнік хутка «прыеўся» Арыне. Стала яна «абыходжваць» сваёй увагай другога начальніка — «фізрука» мэдыцынскага тэхнікуму — Алёшу Новіка. Тады, да вайны, Алёша не адмаўляўся ад «дабрыні» Арыны, але вайна пераблытала ўсё і ўсіх. Алёшу Новіка па партыйнай лініі назначылі начальнікам «мэдыцынскіх курсаў». Пад шыльдай гэтых «мэдыцынскіх курсаў» хавалася школа дыверсантаў, куды трапіла і Клаша Пятрова. Алёша ад першага спатканьня з Клашай «узяў яе на прыцэл». Арына хутка здагадалася, дзе «сабака закапаная»: абнюхаў Алёшка сабе маладзейшую і прыгажэйшую «сучку». Іначай пра сябе Арына Клашу не называла. І, перадумаўшы званіць «куды трэба» пра Язэпа Лабача, рашыла дапрасіць «сучку» і тады пазваніць «сабаку» Іванову пра «нарушыцеля паспартызацыі», пра «ненадзейнасьць курсанткі Пятровай» ды і пра «сувязь начальніка спэцшколы Аляксея Рыгоравіча Новіка з ненадзейнай Клаўдзіяй Пятроўнай Пятровай».

Клаша спала ў пакойчыку, што знаходзіўся каля самых дзьвярэй. Спала моцным сном, якім могуць спаць толькі маладыя стварэньні. У сьне лятала ажно пад самыя хмары, якія былі чамусьці якіясь чырвоныя. Можа таму, што лятала яна і ня ў сьне, а ляцела ўніз галавою праз расчыненыя дзьверы самалёта. Ляцела ні жывая, ні мёртвая, аж пакуль не рашчыніўся парашут і яе падкінула... То быў Клашын першы скачок і палёт. Баялася яна скакаць, думала адмовіцца, але ня ўсьпела вымавіць слова, як рука інструктара піхнула яе ў дзьверы. А прызямліўшыся, не магла нарадавацца, што ўсе страхі засталіся там, у самалёце, толькі саромелася спатыкацца з інструктарам. А ён сам спаткаў яе і сказаў, як-бы зазлянуўшы ў яе душу: «Не праймайцеся, таварыш Пятрова. Першы раз усе ў штаны напускаюць...» Абразілася Клаша за «ў штаны напускаюць» і адрэзала: «А я ў штаны не напусціла... Можаце праверыць...» Зарагатала і пабегла ў агульнажытак.

І вось спала і лятала. Прызямлілася ў сьне ад моцнага груку ў дзьверы. Усхапілася, паглядзела на сяброўку Верачку, што мясьцілася на раскладушцы, прахапілася і тая. Памкнулася Клаша бегчы адчыняць дзьверы, але грукат спыніўся, дзьверы рашчыніліся, і пачуўся хрыплаваты голас Арыны Максімаўны: «Клаўдзія Пятрова, на адной назе ў канцылярыю!...» Дзьверы хлопнулі, Клаша адно здрыганулася, як перад скачком із самалёта. І да Верачкі: «Што-б гэта магло здарыцца? Здаецца, я ні ў чым не правінілася...»

Верачка Гранкіна, старэйшая за Клашу гадоў на тры і прыгожая, як і Клаша, здагадвалася крыху, «што-б гэта магло здарыцца». Жыла яна ў агульнажытку другі год і ведала, якая «цаца» загадчыца агульнажытку. Ведала, што Арына Максімаўна мела «шуры-муры» з Алёшам Новікам, а той здрадзіў ёй, бо закахаўся ў маладзенькую курсантачку Клашу. А што ён закахаўся, увесь дзявочы батальён толькі пра гэта і балабоніў. Верачка, як і ўсе балаболкі, была-б ня супраць, каб начальнік Алёша, як яго ўсе клікалі, зьвярнуў на яе ўвагу, але на Клашу ня гневалася за тое, што яна сталася выбраньніцай Алёшы, ды ўсё-ж... Ды ўсё-ж зайздрасьць падштурхнула яе пусьціць паміж Клашай і Алёшам чорную кошку, і Верачка прамовіла: «Арына Максімаўна — любоўніца Алёшы. Май гэта на ўвазе і ідзі...» Клаша натапырыла свае «бухматыя чмялі» на Верачку, якая нацягвала на вочы шэрае адзіяла, і пырснула: «Алёша?.. Калі вы ўсе памяшаліся на Алёшы, дык не залічайце мяне ў сваю хэўру».

— Ну вось ты якая гарачая, Клаша, — стала апраўдвацца Верачка. — Я-ж хацела як найлепш: каб ты ведала, што казаць Арыне...

Клаша ня стала слухаць Верачку і зачыніла за сабой дзьверы. Неўзабаве яна сядзела ў прапахлым табачным дымам пакойчыку за невялічкім столікам насупраць загадчыцы. Арына, «мать солдатская», як яе завочна называлі дзяўчаты, нэрвова зацягвалася дымам папяросы, абмацвала час ад часу Клашу касымі паглядамі, быццам абдумоўвала, за што яе ўкусіць, маўчала. Клаша таксама маўчала, чакала пытаньняў, а пасьля ня вытрымала і запытала: «Для чаго вы, таварыш Раманаваа, мяне выклікалі? Калі што паважнае хочаце спытаць, дык пытайце, бо я мушу зьбірацца на заняткі. Калі-ж наконт Алёшы, дык ён для мяне ноль бяз палачкі. Я маю нарачонага».

— Вось я і выклікала цябе, каб пагутарыць наконт тваго нарачонага.

— А якая вам справа да майго нарачонага?

— А такая справа, як твая справа да Алёшы...

Клаша пырхнула, памкнулася ісьці, але Раманава затрымала яе за руку, якая ляжала на стале, кажучы: «Не гарачыся, прыгажуня, паслухай старэйшых, можа трошкі разумнейшых...

Клаша паслухала і слухала, ня верачы сваім вушам:

— Твой нарачоны, Язэп Міхайлавіч Лабач, нядаўна быў тут, пытаўся пра цябе...

— А што вы яму сказалі?..

— Сказала, што цябе тут няма, што ты паехала ваяваць...

Клаша ізноў ускочыла, гатовая ўзарвацца ад злосьці, і крыкнула:

— Вы, «мать солдатская», апошняя паскудніца...

Клаша не баялася абражаць Арыну Максімаўну, бо ведала ад Алёшы, што іхнюю «каманду» не сягоньня-заўтра адправяць у тыл ворага. Арына Максімаўна таксама ўскочыла і, стукнуўшы кулаком па сталу, зашыпела:

— Ты не абражай мяне, саплівая, а станавіся на калені і дзякуй мне, што я адправіла твайго спакусіцеля з свастыкай запазухай!

Клаша акамянела, галава закружылася, яна ледзь утрымалася на нагах. Арына Максімаўна задаволена пазірала на пабялеўшую Клашу і рашыла дабіваць сваю, як яна думала, саперніцу: «Ты ведаеш, каго ты выбрала сваім нарачоным?»

— Ведаю... І ў вас не папытаюся, каго мне выбіраць...

Арына Максімаўна, быццам і ня чула Клашыных слоў, сьцябала Клашу скрыпучым голасам, надушаным сьмярдзючым тытунёвым дымам:

— А ты ведала, калі «выбірала», за што Лабача выгналі з Пэдінстытуту?

— Што вы кажаце, Арына Максімаўна? — ужо лагодней ціха прамовіла Клаша.

— Тое, што ты чуеш... Выгналі яго і із Варонежа. Ён ня меў права прыяжджаць сюды на спатканьне з табою. Я, як савецкі чалавек, мусіла паведаміць у міліцыю, але не пазваніла, бо... Я ня ведаю, чаму не пазваніла...

— Бо вы добрая, Арына Максімаўна...

І Клаша падбегла да Раманавай, пацалавала ў скронь і пабегла, выціраючы рукою вусны. У пакойчыку бухнулася на ложак, бухнулася так, што ажно іржавыя спружыны залемантавалі і перапалохалі Верачку.

— Ну, што?.. Угадала я ці не?

Клаша не адзывалася. Уся яна была ў такім стане, як перад першым скачком із самалёта. Яе калаціла не ад страху, а ад пачутага пра Язэпа Міхайлавіча. «Няўжо гэта праўда?» — сьвідравала мазгі пытаньне, але адказу ніхто ня мог даць. «Не, я яго мушу злавіць. Ён яшчэ ў Варонежы... Ён мне скажа ўсю праўду... Скажа». І Клаша ўсхапілася з ложка і пасьпешліва пакрочыла да дзьвярэй.

***

Арына, «мать солдатская», Клашу «раскусіла»: Клаша закаханая ў «ворага народу», Клашы ня мейсца ў школе дыверсантаў. Арына пазваніла «каму трэба». Доўга на другім канцы ніхто ня браў слухаўку. Нарэшце раздобрыўся і, як выстраліў, у трубку: «Слухаю!» У Арыны ажно слухаўка адскочыла ад вуха. «Слухаю» сказаў ня Ваня Іваноў, не начальнік НКВД, а яго «палавіна» Сьвятланка. Арына памкнулася павесіць трубку, але хутка перадумала: «Я праз яе, можна сказаць, угробіла свайго, няхай яна папсіхуе» — і ў трубку: «Я, Арына Максімаўна Раманава, хацела-б па сакрэту пагутарыць з Ванем Івановым...»

— З Ванем? — абурылася Сьвятланка. — Для ўсіх сваіх знаёмых ён Іван Іванавіч, а для вас «Ваня». Даўно ён такім стаў?..

— А ўжэ-ж не сягоньня...

— Цікава... Дзякую за весточку, але «свидание» вам назначыць не магу: Ваня ў ад'езьдзе...

Арына Максімаўна, атрымаўшы «ад варот паварот», не супакоілася. Не з такога яна была дзясятка, каб дазволіць ворагам савецкай улады гуляць на волі. Хаця яшчэ было ранавата грукаць у дзьверы начальніка «Мэдыцынскай школы» Алёшы Новіка, які жыў праз калідор, насупраць канцылярыі Раманавай, але справа была неадкладная, і Арына Максімаўна пастукала.

Клаша ў гэты час саскочыла з трамваю на прыпынку каля вакзалу і пабегла ў залю вакзалу, а там паспрабавала без чаргі пралезьці да касы. На яе закрычалі некалькі «хвастаўых» мужчынаў, каб стала ў чаргу. Клаша папрасіла прабачэньня, сказала, што яна не патрабуе білета, а хоча толькі запытаць у касіра, ці адыйшоў цягнік на Тамбоў. Тады яе прапусьцілі, і яна пачула: «Толькі што адыйшоў».

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 7—10.**

# ГАЛЕРЭЯ «МЕДЭЯ» Ў МІНСКУ



У канцы мінулага года значнай культурнай з'явай у Мінску і рэспубліцы стала адкрыццё першай мастацкай галерэі «Медэя», якая існуе пры аднайменным малым прадпрыемстве беларускай сталіцы. Усю работу, звязаную з дзейнасцю малога прадпрыемства і мастацкай галерэі, усклала на свае плечы маладая жанчына, якой неабыякавы лёс роднай культуры, беларускага мастацтва. Аляксандра Саннікава — былы навуковы супрацоўнік Беларускай Акадэміі навук. Але прага зрабіць нешта сваё, унесці ў скарбонку нацыянальнага адраджэння свой уклад вымусіла яе на гэты дабрачынны крок. За тры месяцы было падрыхтавана тры экспазіцыі. Усе тры мастацкія выставы былі не падобныя адна на другую. Калі, напрыклад, на першай дамінантай усёй экспазіцыі былі скульптурныя творы вядомага маладога мастака У. Слабодчыкава, то далейшыя экспазіцыі рабіліся па іншаму прынцыпу.

Галерэю «Медэя» наведала ўжо некалькі тысяч чалавек, і ўсе яны змаглі не толькі пазнаёміцца з лепшымі творамі мастакоў, скульптараў, майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, але і набыць той твор, які ім спадабаўся. Дастаткова назваць імёны аўтараў, і стане зразумелым мастацкі ўзровень галерэі. Сярод іх, напрыклад, такія майстры, як І. Рэй, У. Тоўсцік, М. Селяшчук, У. Хадаровіч, Б. Казакоў, У. Кожух, Н. Шчасная, У. Сулкоўскі, Мікалай і Марына Ісеёнкі, Павел і Уладзімір Масленікавы, А. Кузьміч, Г. Скрыпнічэнка, С. Каткова, В. Касцючэнка і інш. Актыўны ўдзел прынялі і графікі, творчасць якіх вядомая па-за межамі рэспублікі: В. Славук, К. Паплаўская, А. Александровіч, У. Лукашык, М. Аўчыннікаў, У. Мяховіч. Заўсёды вялікую цікавасць выклікае і раздзел дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Беларуская кераміка, творы з фарфору і фаянсу, дэкаратыўныя кампазіцыі з розных матэрыялаў у руках вядомых майстроў Т. Васюк, В. Чарняк, З. Раўко-Баўтрук, А. Дзятлавай, А. Мусінскай, С. Катковай, А. Масіенкі ператвараюцца ў цудоўныя рэчы, якія надаюць любому інтэр'еру цеплыню і гармонію. У апошняй экспазіцыі, акрамя дробнай пластыкі, дэкаратыўнай скульптуры, твораў з фарфору і фаянсу, керамікі, былі і габелены Т. Чугла завай, Л. Густавай. У жанры міні-габелена цікавыя работы мастачкі А. Атраховіч.



На думку дырэктара галерэі А. Саннікавай, яе дзецішча дасць магчымасць наблізіць усё лепшае з мастацтва да гледача, выхоўваць у людзей высокі мастацкі густ. Галерэя зацікаўлена ў пашырэнні кола мастакоў не толькі вядомымі і прызнанымі майстрамі, але гатова прадастаўляць такую магчымасць і пачаткоўцам, адкрываць новыя імёны як у межах рэспублікі, так і нашых землякоў за мяжой. Дзейнічае адзін крытэрый — высокі прафесіяналізм, прычым у розных мастацкіх плынях — ад рэалістычнага да сучаснага авангарду.



Галерэя мяркуе быць пасрэднікам паміж мастаком і гледачом-пакупніком, а таксама цэнтрам эстэтычнага выхавання людзей на творах сапраўднага мастацтва. Кожны павінен займацца сваёй справай: мастак ствараць творы, а галерэя — прапагандаваць і рабіць аўтару пэўную рэкламу. Галерэя зацікаўлена ладзіць пастаянныя кантакты і з замежнымі мастацкімі галерэямі, каб пазнаёміць і шматлікіх землякоў за мяжой з лепшымі работамі беларускіх аўтараў. Наш артбізнес робіць толькі першыя крокі, але спадзяёмся, што ён прынясе свой плён на карысць адраджэння беларускай нацыі.

**Уладзімір ПРАКАПЦОЎ.**

**НА ЗДЫМКАХ: У. КОЖУХ. «Палессе»; У. ХАДАРОВІЧ. «Нацюрморт з іконай»; вырабы беларускіх майстроў з фарфору.**

## ПАМЯЦІ РЫГОРА ШЫРМЫ

Нямала прыемных мінут падараваў апошні тыдзень зімы мінскім аматарам народнай песні. У сталіцы рэспублікі прайшла дэкада акадэмічных спеваў, прысвечаная стогадоваму юбілею кампазітара і дырыжора, збіральніка і прапагандыста харавога песеннага мастацтва Рыгора Шырмы.

Дзесяткі мастацкіх калектываў Мінска выйшлі на сцэны буйнейшых Палацаў культуры, каб не толькі прадэманстраваць сваё майстэрства, але і яшчэ раз напомніць, якім дальнабачным быў наш славуты зямляк у сваім імкненні сабраць і захаваць для нашчадкаў скарбы беларускай народнай песні.

Адразу чатыры вялікія канцэрты адбыліся ў рамках харавой дэкады ў Доме настаўніка, Палацах культуры прафсаюзаў, трактарнага і аўтамабільнага заводаў. Прайшлі міжраённыя агляды-конкурсы самадзейных і народных харавых калектываў. Лепшыя з іх выступілі ў заключным гала-канцэрце.

# ВІЗІТ У КАНЦЫ ЗІМЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

— У народаў спелых, гістарычна развітых рэлігія не робіць розніцы. Кожны верыць, як хоча. У нас, беларусаў, гэтага, на жаль, не выходзіць, няма талерантнасці поўнай адзін да другога, і таму гэта выглядае як змаганне. Бо кожны хоча, каб іншы быў падобны на яго. Але мы павінны захаваць нашыя традыцыі, якімі мы жылі, і гэтай традыцыяй была праваслаўная царква. Яна пераважна ў сваёй гісторыі была незалежнай царквою, пачынаючы з Наваградскага княства, і ў Вялікім княстве Літоўскім... Ёй давялося перажыць нямала цяжкасцей. У 20-х гадох яна зноў стала аўтакефальнай, але неўзабаве была зліквідавана і духавенства з ёю разам. У многім дзякуючы аўтакефальнай праваслаўнай царкве, мы змаглі ў эміграцыі застацца беларусамі, захаваць сваю беларускасць. У суверэннай жа краіне, якой абвясціла сябе Беларусь, павінна быць і свая суверэнная царква. Трэба адрадзіць аўтакефалію, і гэта царква будзе з нашым народам. Гаворачы пра адраджэнне аўтакефальнай царквы, я не маю на ўвазе, што іншыя цэрквы павінны праследавацца ці што. Рэлігійныя праблемы ўвогуле павінны дыскутавацца толькі на ўзроўні ідэалогіі. У нас жа часам ідзе на палітычным. Вось цяпер, напрыклад, шмат гавораць пра вунію, быццам яна многае дала ў нацыянальным сэнсе. Але пераглядаю гісторыю і бачу, што вунія праводзілася шмат у чым не для рэлігійных мэтаў, а для палітычных, для дэнацыяналізацыі Беларусі.

Гаворачы аб перспектывах аўтакефалізацыі праваслаўнай царквы ў Беларусі, уладыка Мікалай падкрэсліваў, што ён прыхільнік не рэвалюцыйных метадаў, а эвалюцыйных. Бо кожная рэвалюцыя робіць хаос. Менавіта таму на шляху да незалежнасці, на яго погляд, шмат можа зрабіць беларуская мова, якою загавораць з паствою беларускія праваслаўныя святары.

Спадар М. Ганько, які ў замежжы паспяхова авалодаў навукай адміністравання і бізнесу, дзяліўся ўласным вопытам арганізацыі прадпрымальніцтва, а таксама прапанаваў свае пасрэдніцкія паслугі для завязвання кантактаў з канадскім дзелавым светам. Прагучала і такая думка: Беларусь вядзе надта сціплую і вялую знешнюю палітыку. У Канадзе, напрыклад, якая адной з першых прызнала незалежнасць Беларусі, пра рэспубліку зусім мала ведаюць. А прыезды нашых парламентарыяў і дэлегацый эпізадычныя.

...Мне, як журналісту, даволі цікава было назіраць за гасцямі - суайчыннікамі, якія амаль паўвека не былі на гэтай зямлі. У першы дзень, калі сустракалі іх у аэрапорце: разгубленыя, сцішаныя, здзіўленыя, здавалася, яны доўга не апамятаюцца. Але ўжо на другі дзень яны рабілі ўражанне людзей, якія ніколі адсюль не ад'язджалі. «Мы сярод сваіх, гэта трэба разумець», — усё паўтараў М. Ганько. В. Русак, перапоўнены пачуццямі, не мог стрымаць слёз. А ўладыка Мікалай, нягледзячы на паважны ўзрост, сан, з нейкай дзіцячай радасцю «штурмаваў» валы вакол Спаса-Праабражэнскай царквы, што ў Заслаўі. Родная зямля, свежы вясновы ветрык давалі яму сілу і энергію, натхненне і апантанасць.

— Я еду з Беларусі, — гаварыў на развітанне ўладыка Мікалай, — з глыбокім перакананнем, што яна будзе беларускай! Тут жывуць вольныя людзі, якія цяпер ужо нічога не баяцца, кажуць тое, што думаюць. Мы маглі з вамі ўсімі шчыра і адкрыта гаварыць. Асабліва моладзь мяне радуе.

Я сустракаўся з мітрапалітам Філарэтам. Удзячны яму за прыём. Магу сказаць, што ў нас ёсць узаемаразуменне.

На свае вочы ўбачылі бяду Чарнобыля і цяпер будзем лепш арыентавацца, чым і як дапамагчы свайму народу. Вы павінны ведаць, што мы — з вамі.

У цяжкую гадзіну працягваюць нам сваю руку браты-беларусы замежжа. Яны і мы — адно цэлае ў вялікім свеце. І перад нашчадкамі ў нас агульны доўг: пакінуць ім Бацькаўшчыну, якой можна ганарыцца.

**Таццяна АНТОНАВА.**

# *З НОВЫХ ВЕРШАЎ*

**Пятрусь МАКАЛЬ**

## ШТО МЫ РАБІЛІ

**Секунды цікаюць і ўцякаюць.**
**Болем, які ўжо не заглушу,**
**Думы бяссонныя апякаюць,**
**Агнём працінаюць навылет душу.**
**Што мы рабілі!**
**Што мы рабілі!**
**Пад варанячы канвойны грай**
**Самі дарогу сабе церабілі**
**У лагерны рай агароджаных зграй.**
**Што мы рабілі!**
**Што мы рабілі!**
**Не закілзаўшы прымус і здзек,**
**Колькі сваіх аднаверцаў забілі,**
**Колькі пакінулі ўдоў і калек.**
**І генералы, і радавыя**
**Уроўнены кулямі ў званні адным.**
**Завея ваўчыцай няўцешна вые**
**Над іх невядомым прыстанкам зямным...**
**Што мы рабілі!**
**Што мы рабілі!**
**Колькі аратых сваіх загубілі!**
**Горкая праўда гоіць і коле.**
**Ах, гавары не гавары,**
**Але яе не пачуюць ніколі**
**Замардаваныя плугары,**
**Што спаконвек не збіваліся з тропу,**
**Дыбалі ў вупражы разам з канём,**
**Кормячы хлебам сябе і Еўропу**
**Пад несціханым сваім груганнём.**
**Што мы рабілі!**
**Камень драбілі,**
**Сталінскай мудрасці грызлі граніт,**
**Пад ногі таму, каго не любілі,**
**Шпулялі нянавісці дынаміт...**
**Душ не ўлагодзіць Вялікдзень і Сёмуха**
**Нам,**
**Гадаванцам дубца і свінца,**
**Вечным заложнікам трыццаць сёмага,**
**Якому, здаецца, не будзе канца.**

**Таццяна КАРШУКОВА**

***

**Найбольш за ўсё люблю на свеце**
**Цябе, вясны вясёлы вецер!**
**Твой цёплы подых,**
**Нібы колер,**
**Усё змяняе наваколле.**
**І зелянее лес і поле —**
**Што для душы патрэбна болей!**
**А сонца зыркае як свеціць!**
**Шугай, шумі, вясновы вецер!**

*СПОРТ*

# НА ПРЫЗЫ АЛЯКСАНДРА МЯДЗВЕДЗЯ

Ні жорсткая інфляцыя, ні імклівы рост цэн не перашкодзілі правесці ў Мінску турнір на прызы вядомага барца Аляксандра Мядзведзя. Па традыцыі ў сталіцу Рэспублікі Беларусь з'ехаліся мацнейшыя спартсмены планеты.

І зусім зразумела, што гаспадарам дывана ў такой моцнай кампаніі прыйшлося вельмі цяжка на шляху да п'едэстала гонару. У фінальную частку турніру ўдалося прабіцца толькі тром прадстаўнікам Рэспублікі Беларусь — Сяргею Смалю, Шамілю Абдурахманаву і Аляксею Мядзведзю — сыну Аляксандра Мядзведзя. Дарэчы, Аляксей адзіны з нашых спартсменаў і стаў пераможцам у самай прэстыжнай цяжкай вагавой катэгорыі. Гэта ўжо не першы поспех нашага спартсмена.

— Інакш і не магло быць, — сказаў журналістам шчаслівы пераможца. — Я падтрымаў слаўныя сямейныя традыцыі. Мяне трэніруе бацька — Аляксандр Мядзведзь.

Звяртае на сябе ўвагу ўдалае выступленне барцоў Паўднёвай Карэі, якія першынствавалі ў большасці вагавых катэгорый.

Нам жа застаецца дадаць, што ў асноўным добрыя традыцыі беларускай школы барацьбы, як паказаў прайшоўшы турнір, прадоўжаны.



**НА ЗДЫМКУ: Аляксей і Аляксандр МЯДЗВЕДЗІ.**

**Фота М. АХРАМЕНКІ.**

## ЧЭМПІЁН ПЯТЫ РАЗ

Няўдалае выступленне канькабежца, шматразовага чэмпіёна свету Ігара Жалязоўскага на Алімпіядзе ў Альбервілі паставіла пад сумненне яго выступленне на першынстве свету па спрынтарскаму мнагабор'ю. Лічылася, што ён не складзе сур'ёзнай канкурэнцыі мацнейшым скараходам планеты.

Але выдатны беларускі спартсмен змог падысці да гэтых спаборніцтваў у выдатнай форме. У чатырох забегах, двойчы на 500 і 1 000 метраў, ён быў мацнейшым і не пакінуў сваім сапернікам ніякіх шанцаў.

Такога поспеху не дамагаўся ніхто са спартсменаў былога Савецкага Саюза. Мы віншуем нашага земляка з выдатнай перамогай. І ў той жа час не можам не пашкадаваць, што поспех Ігара Жалязоўскага чамусьці сціпла адзначылі газеты, радыё і тэлебачанне.



## ПАШАНЦАВАЛА РЫБАЛОВАМ

Самымі ўдачлівымі рыбаловамі мінулага года па праву можна лічыць мінчан Б. Бялецкага і П. Сцяцэвіча, якія злавілі шчупака вагой 13 кілаграмаў 500 грамаў і сярэбранага карася — 2 кілаграмы 500 грамаў. Усяго ж 6 аматараў парыбачыць аб'яўлены Беларускім таварыствам паляўнічых і рыбаловаў пераможцамі леташняга конкурсу рэкорднай рыбы года. Ва ўзнагароду яны атрымаць дыпломы, медалі і рыбалоўныя снасці.

Лавіся, рыбка, вяліка-вялікая і ў гэтым годзе!

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# НОВЫЯ ВЫПУСКІ ПОШТЫ

Беларускія філатэлісты папоўнілі свае калекцыі новым цікавым мастацкім канвертам, якога даўно чакалі. Канверт ці паштовую марку чакалі і да 90- і да 95-годдзя з дня нараджэння гэтага чалавека. Але па розных прычынах — адна з якіх, несумненна, была палітычнай — мы не дачакаліся гэтых выпускаў. І толькі сёння, калі многае ў нашай краіне змянілася, убачыў свет канверт, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Р. Шырмы — вядомага беларускага артыста, фальклярыста, харавога дырыжора, які многа зрабіў для беларускага мастацтва. На канверце — партрэт Р. Шырмы (малюнак мастака Б. Ілюхіна) і юбілейны тэкст. У дзень юбілею — 20 студзеня — на мінскім паштамце праводзілася спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі памятным штэмпелем, у малюнку якога сілуэт Р. Шырмы.




Сказанае вышэй поўнасцю можна аднесці і да другога юбілею. Нядаўна шырока адзначаўся 100-гадовы юбілей вядомага беларускага паэта М. Багдановіча. Гэты юбілей быў адзначаны не толькі выпускам мастацкага канверта з адлюстраваннем помніка паэту ў Мінску (скульптар С. Вакар, архітэктары Ю. Казакоў і Л. Маскалевіч), але і спецыяльным штэмпелем. У малюнку штэмпеля — юбілейны тэкст «100 год з дня нараджэння Максіма Багдановіча», адлюстраванне ліры і гусінага пяра, у частцы штэмпеля — беларускі нацыянальны арнамент. У дзень юбілею, 9 снежня 1991 года, на Мінскім паштамце было людна: філатэлісты з Оршы, Гомеля, Брэста, Маладзечна, Санкт-Пецярбурга, Рыгі, Масквы і іншых гарадоў і проста аматары творчасці паэта цярпліва стаялі ў чарзе, каб юбілейным штэмпелем пагасіць канверты для сваіх калекцый.

На гэты раз пошта парадавала філатэлістаў (што рэдка здаралася ў былыя гады) таксама выпускам спецыяльнай паштовай карткі з партрэтам М. Багдановіча. На картцы пад партрэтам — адлюстраванне кніг, а таксама тэкст «100 гадоў з дня нараджэння. Беларускі паэт Максім Багдановіч. 1891—1917». Тут трэба адзначыць, што яшчэ ў 1983 годзе пошта СССР выпусціла канверт з адлюстраваннем помніка М. Багдановічу. І гэты канверт, на думку філатэлістаў, больш удалы, чым выдадзены да 100-гадовага юбілею. Не варта, відаць, паўтараць адзін і той жа сюжэт на паштовых выпусках. Бо да юбілею Багдановіча не абавязкова было выдаваць канверт з адлюстраваннем помніка. Хіба мала партрэтаў паэта, яго фатаграфій, добрых ілюстрацый да яго твораў і г. д... Але ж лягчэй было паўтарыць сюжэт з помнікам. Бо за многія гады пошта даволі добра набіла руку на паўтарэнні сюжэтаў на сваіх выпусках. І яшчэ адну прэтэнзію беларускіх філатэлістаў Міністэрству сувязі СССР і іншым, ужо не існуючым установам можна выказаць. Мастацкія канверты пошта пачала выпускаць у пачатку 50-х гадоў. У год выдавалася 100—450 сюжэтаў. А ці шмат іх прысвечана беларускім пісьменнікам, паэтам, артыстам, дзеячам мастацтва? Усяго некалькі. Я іх пералічу. У 1966 годзе быў выпушчаны да 90-годдзя з дня нараджэння беларускай паэтэсы Цёткі (А. Пашкевіч) канверт з яе партрэтам. 100-годдзю з дня нараджэння беларускага савецкага пісьменніка Змітрака Бядулі прысвечаны канверт, выдадзены ў 1986 годзе. Найбольшая колькасць паштовых выпускаў: марак, канвертаў, паштовых картак і спецыяльных штэмпеляў — прысвечана класікам беларускай літаратуры Я. Купалу і Я. Коласу. Выпускамі пошты адзначаны 75-, 80- і 100-гадовыя юбілеі паэтаў. Праўда, да гэтага часу не адлюстравана ні на марцы, ні на канверце помнікаў паэтам, устаноўленых у сталіцы рэспублікі.

Некалькі паштовых марак з розных серый прысвечана творчасці ўраджэнца Беларусі І. Хруцкага. Магіляўчаніну, народнаму мастаку Беларусі, жывапісцу-пейзажысту В. Бялыніцкаму-Бірулі прысвечаны мастацкі канверт з яго партрэтам і спецыяльны штэмпель, выдадзеныя да 100-годдзя з дня нараджэння. У серыі марак (дарэчы, пакуль адзінай) «Жывапіс Беларусі» ёсць мініяцюра з рэпрадукцыяй карціны В. Бялыніцкага-Бірулі «Ранняя вясна». У гэтай серыі ёсць маркі з рэпрадукцыямі карцін беларускіх мастакоў М. Савіцкага «Партызанская мадонна», І. Хруцкага «Партрэт жонкі з кветкамі і фруктамі», В. Цвіркі «Збожжа ўбрана», Я. Зайцава «Юны партызан». Яшчэ ў тыя гады (1967) быў выдадзены канверт, прысвечаны 450-годдзю беларускага кнігадрукавання. На малюнку гэтага канверта была адлюстравана гравюра 1517 года з партрэтам Ф. Скарыны. Ужо апошнім часам, да 500-годдзя Ф. Скарыны, былі выдадзены марка, канверт, паштовая картка і спецыяльны штэмпель, а летась пошта парадавала філатэлістаў выпускам канверта, прысвечанага беларускаму пісьменніку сярэдневякоўя, рэфарматару і кнігадрукару Васілю Цяпінскаму.

**Леў КОЛАСАЎ.**


**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**ЗАСНАВАЛЬНІК:**

**Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).**





**НАШ АДРАС:**

**220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.**

**ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.**





Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку».
Індэкс 63854. Заказ № 511.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12